*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 88 (1153)**
Пятніца, 18 мая 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



ГЛАС НАРОДА

## "Яшчэ адно шоу"

*Напярэдадні Усебеларускага народнага сходу наш карэспандэнт звярнуўся да жыхароў Мінска з наступнымі пытаннямі:*

***1. Хто, на вашу думку, будзе выступаць на гэтым сходзе?***

***2. Што б сказалі вы, калі б былі яго дэлегатам?***

**Уладзімір, бізнесмен:**

1. — Як хто? А хто ў нас звычайна выступае? Лукашэнка, канешне, толькі яму гэта і патрэбна. Зноў будзе абяцанні раздаваць.

2. — Праўду б сказаў пра сітуацыю ў краіне, але ж ён "вшивых блох" туды не дапускае.

**Дзяніс, навучэнец ліцэя:**

1. — Ну, хто: сілавікі, міністры і, канешне, Лукашэнка. Хутка выбары, ён хоча застацца прэзідэнтам, а таму яму неабходны гэты сход.

2. — А я б і не пайшоў туды, калі б нават запрасілі.

**Ніна, працоўная:**

1. — Вельмі добрая ідэя прэзідэнта, даўно трэба было правесці такі сход. Зараз вельмі цяжкі час для краіны, таму прэзідэнту неабходна наша падтрымка. Каб простыя людзі, як раней, маглі выказаць свае думкі, надзеі, праблемы, а прэзідэнт нам дапаможа.

2. — А я і так дэлегат.

**Ігар, юрыст:**

1. — Гэта будзе яшчэ адно шоу, неабходнае толькі для Лукашэнкі. Магчыма, ён на ім назаве тэрмін выбараў, а магчыма, там і перавыберацца адразу. Усё гэта страшэнны папулізм.

2. — А што б я там сказаў, вам лепш не друкаваць, а то і вашу газету зачыняць.

**Мікалай, навучэнец БДУ:**

— Штосьці чуў, але дакладна не ведаю. Думаю, кіраўніцтва краіны будзе выступаць.

**Яўген, пенсіянер:**

1. — Хлопцы! Быццам вы не ведаеце, хто будзе выступаць: балбатун гэты. Я стары чалавек і мне ўжо нічога не патрэбна, але я хачу, каб мае дзеці добра жылі. Таму лічу, што яго трэба здымаць.

2. — Тое ж, што і вам.

**Ганна, медработнік:**

1. — Гэта там, дзе дзве з паловай тысячы чалавек сабраліся? Тыя, хто арганізоўваюць, тыя і будуць выступаць.

2. — Шмат сказала б: што заробкі ў нас вельмі нізкія, што жывём дрэнна. Але ж хто туды мяне пусціць, там толькі выбраныя.

**На праспекце Скарыны тусаваўся Сяргей ХАДАРКЕВІЧ.**

Где это видано...

## Бессрочное следствие

Александр Лосев попал в автоаварию и стал инвалидом. Случилось это 19 сентября 2000 года на территории Смолевичского района. Прошло восемь месяцев, однако следствие все еще не закончено.

Не берусь давать данному факту оценку: то ли это обычная бюрократическая волокита, то ли попытка спустить дело на тормозах, то ли квалификация следователей районной прокуратуры недостаточна для данного дела, то ли еще что-нибудь — на то есть вышестоящие инстанции. Но при всем том и инвалиду Лосеву, и его семье надо на что-то существовать.

**Из письма Александра Лосева:**

*"... Моя разбитая, не подлежащая ремонту автомашина находится на платной стоянке в г.Жодино, за которую я должен уплатить немалые деньги..."*

*"...У меня на иждивении двое детей. У жены зарплата 30 тысяч рублей в месяц (странно, однако власти прожужжали все уши о белорусской зарплате в 100 долларов, то есть 135 тысяч рублей. —* ***Авт.****). Мне и моей семье просто не на что жить. Забрать и продать автомашину на запчасти я также не могу..."*

*"...Материальный ущерб мне также никто не возместил, хотя машина была застрахована..."*

*"...Остается пикетировать перед Домом правительства..."*

Прокурор Смолевичского района на мою просьбу прояснить ситуацию ответил, что не в курсе этого дела, и направил к своему заместителю. Телефон заместителя не отвечает, молчат и остальные телефоны этой прокуратуры.

**Валерий ЩУКИН.**

## Взломали огневую самоходку

3 мая 2001 года командованием 56-й зенитно-ракетной бригады было обнаружено хищение 15 радиоэлектронных блоков из самоходно-огневой установки. Блоки в буквальном смысле слова были выломаны из машины. К розыску похитителей подключились военные контрразведчики Слуцкого гарнизона. На следующий день они выявили военнослужащего указанной части рядового Л. и двух местных жителей, подозреваемых в хищении. В ходе дознания последние признались в совершении хищения и указали место хранения похищенного.

В рамках возбужденного Слуцкой межгарнизонной военной прокуратурой уголовного дела был произведен обыск на одной из квартир, в ходе которого была обнаружена часть блоков, а также уже извлеченные конденсаторы, приготовленные, по всей видимости, к реализации.

В настоящее время уточняется сумма нанесенного ущерба.

**В.НАДТАЧАЕВ.**

СПОРТ

## Беларусь футбольная займае 88-е месца

Міжнародная федэрацыя футбола (ФІФА) распаўсюдзіла чарговы штомесячны рэйтынг-ліст нацыянальных зборных. У параўнанні з красавіком Беларусь набыла 3 ачкі (стала 457) і захавала 88-ю пазіцыю. Праўда, зараз беларусы яе дзеляць са зборнай Гаіці.

Упершыню пасля чэмпіянату свету 1994 года ў рэйтынг-лісце адбылася змена лідэра: месца зборнай Бразіліі, якая заваявала тады званне чэмпіёнаў свету, занялі французы — пераможцы апошняга сусветнага першынства.

Зараз дзесятка лепшых выглядае так (у дужках — месца і ачкі ў красавіцкім рэйтынг-лісце): 1 (2). Францыя — 796 (792), 2 (1). Бразілія — 794 (807), 3 (3). Аргенціна — 763 (770), 4 (4). Італія — 748 (750), 5 (5). Партугалія — 732 (735), 6 (7). Іспанія — 724 (725), 7 (6). Чэхія — 722 (732), 8 (10). Галандыя — 715 (709), 9 (8). Германія — 711 (714), 10 (9). Парагвай — 703 (713).

Сапернікі беларускай зборнай па 5-й еўрапейскай адборачнай групе чэмпіянату свету 2002 года займаюць такія пазіцыі: 17 (16). Нарвегія — 663 (666), 23 (23). Польшча — 627 (627), 40 (35). Украіна — 573 (588), 95 (93). Арменія — 444 (447), 110 (108). Уэльс — 398 (399).

Усяго ў рэйтынг-ліст уключаны 203 нацыянальныя зборныя.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

СЛЫШАЛИ?

## Ивану Титенкову угрожают убийством



Кто мог подумать, что всесильному Ивану Ивановичу Титенкову, пять с половиной лет проработавшему рука об руку с А.Лукашенко, будут угрожать физической расправой. К сожалению, пугающая информация поступает ему по разным каналам. И хотя он теперь живет в Москве, угроза, как ни странно, исходит из Минска.

Версий на сей счет много. Одна из них — позиция, которую занимал и занимает Иван Иванович. Как известно, в окружении Лукашено он был единственным, кто открыто говорил "всевышнему" нелицеприятные вещи. Закончилось тем, что вначале А.Г. объявил ему "полное служебное несоответствие", а вслед за этим на стол Лукашенко легло заявление Титенкова с просьбой об уходе по собственному желанию. И хотя в указе была объявлена даже благодарность, расстались два друга не самым лучшим образом.

В Москве Ивана Ивановича Титенкова приняла известная нефтяная компания "Итера", которая давно имеет свои интересы в Беларуси. Сейчас даже поговаривают, что с позволения А.Лукашенко "Итера" вот-вот приберет к рукам такие крупные белорусские предприятия, как "Химволокно", "Гродноазот", "Керамин", БМЗ (металлургический завод в Жлобине).

Находясь в Белокаменной, Иван Иванович не мог не знать, какое варево варится в Москве для родной Беларуси. И вообще, о всех подводных течениях трудно судить, но в московских кругах поговаривают о намерении Титенкова уволиться из компании "Итера".

Без работы Иван Иванович Титенков, конечно, не останется. Сохранить бы только жизнь, не последовать вслед за Захаренко, Гончаром, Красовским, Завадским...

По информации, поступившей в редакцию из конфиденциальных источников, Генпрокуратуре якобы дана команда поднять все старые дела, в которых в той или иной степени фигурировала фамилия тогдашнего главного завхоза страны Ивана Ивановича Титенкова. Цель? Отправить на нары? Что ж, в Беларуси все возможно.

**Антон КОРЗУН.**

НАВІНЫ

### З'явіліся стратныя прадпрыемствы нафтавікоў

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, па выніках працы за тры месяцы 2001 года 17 прадпрыемстваў, з іх 3 прамысловых і 14 прадпрыемстваў па забеспячэнні нафтапрадуктамі канцэрна "Белнафтахім", аказаліся стратнымі (усяго ў складзе "Белнафтахіма" больш за 80 прадпрыемстваў, — БелаПАН).**

Як лічаць незалежныя эксперты, тэндэнцыя такая, што і надалей сітуацыя ў нафтахімічным комплексе краіны будзе застаdin складанай.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

### Партыі дамовіліся аб каардынацыі

**На арганізацыйным пасяджэнні Міжпартыйнага цэнтра прысутнічалі члены Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай партыі жанчын "Надзея", Беларускай партыі зялёных, Беларускай партыі працы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Беларускай экалагічнай партыі "зялёных" (БЭЗ), Ліберальна-дэмакратычнай партыі, Партыі БНФ, Сацыял-дэмакратычнай партыі народнай згоды.**

Удзельнікі пасяджэння прынялі заяву "Аб каардынацыі дзейнасці палітычных партый па вылучэнні кандыдатаў у выбарчыя камісіі на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

### Арыштаваны адзін з лідэраў КХП БНФ

**Сяргей Папкоў, адзін з лідэраў Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ быў арыштаваны пры дзіўных абставінах. Па меркаванні сяброў Папкова з КХП, арышт быў праведзены з мэтай не дапусціць правядзення мітынгу пратэсту супраць палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, наменачага на чацвер 17 мая.**

Па тых жа звестках сяброў, міліцыянты ўварваліся ў прыватную кватэру Папкова, калі там праходзіў сход апазіцыянераў. Праваахоўныя органы Беларусі пацвярджаюць факт затрымання Папкова, але не інфармуюць аб прычынах арышту.

На момант здачы нумара ў друк над Сяргеем Папковым адбываўся суд.

**Мікола БУСЕЛ.**

ПАМФЛЕТ ДНЯ

## БЕЛАРОССИЯ,

### или Проект окончательного устройства белорусской автократии, предлагаемый к рассмотрению на втором Всебелорусском собрании

Уважаемые делегаты Всебелорусского собрания! Согласитесь, еще никому не удавалось съесть один и тот же омлет сначала утром, а затем в обед, никто не сумел повторно войти в одну и ту же реку. Даже всемогущий Бог не может сделать бывшее не бывшим. Почему острословы и говорят: одного яйца два раза не высидишь.

То, как ведут предвыборную кампанию А. Лукашенко и его соратники, наводит на мысль о том, что они вознамерились убедить мир в обратном. Похоже, им хочется еще раз высидеть шкловского бройлера образца 1994 года. Причем по той же технологии и теми же средствами.

Наблюдая за кризисом идей в штабе первого "всенародноизбранного", я решил выступить с безвозмездной идейной помощью. Короче, догадал меня черт. Предлагаю проект нетрадиционного решения больных вопросов белорусской автократии. В частности, как в Беларуси утвердить окончательно и бесповоротно режим абсолютной личной власти? Каким образом добиться того, чтобы демократическая оппозиция могла свободно участвовать в выборах, без препятствий пользовалась государственными СМИ, заседала в представительных органах и при этом не мешала единоличному правлению страной? Как "заткнуть" рот западной общественности, чтобы она, наконец, перестала говорить об антидемократической сущности белорусской власти?

Начну вот с чего. С идеей интеграции Беларуси и России г-н Лукашенко носится с незапамятных времен. Тем не менее объявленное союзное государство существует скорее на бумаге. Российская сторона не спешит тратиться на его строительство, хотя подмять белорусскую денежную систему она готова.

Больше того, хозяин Кремля не прочь, чтобы самому носить титул главного интегратора. Еще немного — и невесту уведут прямо из стойла. Чтобы вернуть инициативу "Красному дому", самое время взять быка за рога. Пока Москва окончательно не определилась с инкорпорацией Беларуси, пока кремлевские тугодумы размышляют над тем, как не упустить выгоду и сохранить приличия, перемещая границы РФ к Бресту, следует немедленно объявить о присоединении России к Беларуси и создании государства Белароссии. И сделать это должно Всебелорусское собрание!




Уважаемые депутаты, история не простит вам, если вы упустите исторический шанс. Не занимайтесь мелкотемьем, выражая поддержку генеральной линии. Обсуждать вопросы повторного избрания своего вождя и поносить оппозицию — дело третьестепенное. В случае, если моя идея начнет претворяться в жизнь, А. Г. будет просто обречен на победу, причем не только в нынешней избирательной кампании.

Приняв акт о создании Белароссии, ваш съезд откроет эру невиданных политических реформ. Новый формат белароссийского государства потребует избрания новой представительной и исполнительной власти. Нынешнюю Палату представителей, увы, придется распустить, поскольку ее депутаты будут представлять только 1/15 населения созданного государства. Неизбежно проведение новых выборов в общий (белароссийский) парламент.

Опыт крупных стран подсказывает, что один миллион граждан в законодательном органе представляют примерно два депутата. Следовательно, на 10 миллионов населения Беларуси и 140 миллионов населения России придется создавать 300-местный парламент. При этом белорусской метрополии должно достаться 20 мест, а российской провинции — 280.

Вот тут начинается самое крутое в моем проекте. Кремль никогда не согласится играть роль пристяжного, будет скандалить, угрожать санкциями, о выборах даже не станет говорить. Белорусской стороне такая реакция как раз и нужна. Белорусская исполнительная власть, в соответствии с решениями второго Всебелорусского съезда, буде такие появятся, все равно назначит выборы.

При этом белорусские политики смогут оспаривать лишь 20 мест. Пусть за них борются оппозиционные силы и пусть они завоюют их. Власть должна сделать все, чтобы эти места достались БНФ, ОГП, БСДП и другим оппозиционным партиям. Пусть БТ "раскручивает" оппозиционных кандидатов 24 часа в сутки. Надо пригласить наблюдателей со всего мира и обеспечить идеальную прозрачность всей избирательной кампании.

Однако, вы спросите, как быть с остальными 280 парламентскими креслами? Эти вакансии глава государства должен зарезервировать за территориями, на которых "временно" не может проводиться избирательная кампания. Поскольку же общество нуждается в том, чтобы все ветви власти работали нормально, скажем так: президент, хочет он того или нет, обязан назначить в парламент представителей от российской провинции.

Вот и все. Не надо никакой борьбы с оппозицией. Она может гулять и митинговать где угодно и сколько ей влезет. Пусть попробует ОБСЕ или какая-нибудь иная западная структура упрекнуть официальный Минск в попрании демократических прав и свобод.

В свете изложенного проекта вопрос об избрании А. Г. на следующий президентский срок приобретает сугубо формальный характер. Сколько их, соискателей президентского кресла, выдвигаемых оппозицией — пять, девять? Пусть все они, от артиста и до бывшего премьер-министра, борются за семимиллионный белорусский электорат и пусть они завоюют его весь без остатка. Голоса ста миллионов избирателей российской провинции Белароссии, назначенные в поддержку А. Г., обеспечат ему более чем триумфальную победу.

Тех из вас, уважаемые делегаты, кто сомневается в реализме моих предложений, хочу уведомить о том, что история уже видела подобное. В 1949 году, после победы в Китае коммунистической революции, авторитарный режим Тайваня объявил парламент острова общекитайским. Из 314 парламентских мест на выборах оспаривалось только 72 места. Остальные 242 парламентских кресла резервировались для территорий, которые "временно" контролировали коммунисты. Представителей на вакантные места назначало гоминьдановское правительство.

Таким оригинальным способом оно, во-первых, полностью контролировало политическую ситуацию и, во-вторых, что весьма существенно, создавало благопристойный фасад. Тайбэй даже сумел заключить с Америкой договор о взаимной безопасности и помощи, что принесло тайваньской экономике огромные выгоды, на остров потоком хлынули иностранные инвестиции, и он превратился в один из самых процветающих уголков Азии. Представляете, если мой проект получит развитие и официальный Минск, облагородив свой авторитарный фасад, заключит такой же договор с той же Америкой?

Уважаемые делегаты съезда, уверен, вы не пойдете на поводу у тех президентских сподвижников, кто пытается два раза высидеть одно яйцо. Будущее белорусской автократии не в ее клонировании путем победы А. Г. на предстоящих президентских выборах. Кто так думает, того ожидает скорое разочарование. Выживание режима требует неординарных шагов. Поэтому смелее ломайте регламент вашего собрания, вносите в повестку дня мой проект и добивайтесь его материализации. Сумеете освоить тайваньский опыт, тогда у вас могут быть шансы. В остальных случаях дело, ради которого вас собрал хозяин, безнадежно.

На этом свою миссию адвоката лукавого прекращаю.

**Вячеслав ОРГИШ,**
**доктор философских наук.**

КЛИНИКА

## Дело Антанты живет и процветает

Идея тройственных союзов не дает спокойно спать, похоже, не только военным стратегам начала прошлого века, но и великим интеграторам начала века нынешнего. Только-только рассыпались надежды белорусских любителей с кем-нибудь поинтегрироваться (например, с Катаром, который не так давно посетил наш главнокомандующий), как на их небосклоне замаячила новая надежда — Армения.

Как сообщило РИА "Новости", в середине недели в столице Армении Ереване прошел 10-тысячный митинг, участники которого, преимущественно лидеры компартии, заявили о том, что независимость Армении может быть обеспечена исключительно после присоединения к союзу России и Беларуси. Митингующие приняли обращение к президенту, премьер-министру и председателю Национального собрания Армении с требованием провести в стране референдум по вопросу о присоединении Армении к союзу. На митинге было также зачитано послание Национальному собранию с требованием безотлагательного созыва внеочередной сессии парламента. Напомним, что в 1999 году в республике Армения уже было собрано около одного миллиона подписей в поддержку проведения референдума по вопросу присоединения к российско-белорусскому союзу.

Возможно, руководство дружественной нам страны Армении и не прислушается к требованиям коммунистов... А если прислушается? Задайте себе вопрос, самые выдающиеся "интеграсты" из бывшего СССР, почему вы так рьяно отстаиваете идею абсолютно дохлых для реализации политических союзов и содружеств, а у себя дома, в своей квартире, предпочитаете жить отдельно от родителей, отдельно от детей и внуков, и считаете лучшим просто ходить к ним в гости? Ведь это так просто: живи в своей квартире и сотрудничай с соседями и знакомыми!

Тем более, как известно, тройственные союзы создаются исключительно в условиях военной угрозы.

**Александр СИЛИЧ.**



Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі — дажджы, навальніцы; месцамі моцныя дажджы, магчымы град.

Вецер паўднёвы, 5—10 м/с, пры навальніцах шквалістае ўзмацненне ветру да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — +25...+27, Мінску — +23...+25, Гродне — +19...+21, Гомелі — +26...+28, Брэсце — +21...+23.

У наступныя двое сутак: 19-га ўначы на значнай частцы тэрыторыі — дажджы, месцамі навальніцы, удзень і 20-га на працягу сутак па поўначы краіны — невялікія дажджы. Вецер паўночна-заходні, 6—11 м/с.

Паніжэнне тэмпературы паветра: 19-га ўначы — +5...+10, на паўночным усходзе — +11...+16; 20-га ўначы — +3...+8, на тарфяніках Палесся да 0...-2, удзень — +14...+19.

*Пр. Якава.*
*К. Аляксандры, Эрыка, Яна.*

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

1906 — Заснаванне ў Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца».

МАЙ
**18**
ПЯТНІЦА

☉ Усход 5.03, Заход 21.11, Даўж. дня 16.08

☾ Апошн. квадра 15 мая, Усход 4.30, Заход 15.29

НАВІНЫ

## "Палярнае кальцо" беларусаў

**Кіраўнік нацыянальнай беларускай экспедыцыі "Палярнае кальцо" Уладзімір Драбо ўпэўнены ў яе паспяховым завяршэнні.**

Ён паведаміў, што за перыяд з 9 лютага па 9 мая на трох усюдыходах айчыннай вытворчасці восем удзельнікаў экспедыцыі праехалі 9240 кіламетраў па маршруце горад Лабытнангі — востраў Дзіксан — мыс Чэлюскін — пасёлак Ціксі — пасёлак Певек — пасёлак Уэлен. Такім чынам, як зазначыў Уладзімір Драбо, упершыню ў гісторыі падарожжаў і даследаванняў у Арктыцы быў ажыццёўлены пераход па паўночным ўзбярэжжы Расіі з выкарыстаннем наземнага транспартнага сродку.

"Падчас экспедыцыі, якая праходзіла ад паўвострава Ямал да Берынгава праліву, размешчанага на Чукотцы, мы сустракаліся з людзьмі, якія, часам, не ведалі пра тое, што Беларусь з'яўляецца прэзідэнцкай рэспублікай", — сказаў Драбо. Паводле яго слоў, Чукотка зараз "як бы вярнулася ў сярэднявечча": там ужо не сустрэнеш усюдыход, а санітарны рэйс верталёта людзі чакаюць часам да трох месяцаў.

Як паведаміў Уладзімір Драбо, наступны этап "Палярнага кальца" адбудзецца ў 2002 годзе ў тыя ж тэрміны.

## Рыхтуйцеся, абітурыенты!

**Сёлета абітурыенты змогуць паступаць адначасова ў некалькі навучальных устаноў, паведаміў міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Абітурыент атрымае права прадставіць у адну навучальную ўстанову арыгіналы дакументаў, неабходных для здачы ўступных экзаменаў, а ў другую — іх копіі. Стражаў таксама паведаміў, што падчас уступных экзаменаў па жаданні абітурыентаў могуць улічвацца вынікі тэсціравання, папярэдне праведзенага ў шэрагу ВНУ.

Для павышэння прэстыжу замежных моў у 25 з 43 дзяржаўных ВНУ ўводзіцца экзамен на замежнай мове. Выпускнікі школ з сельскай мясцовасці і зоны, што пацярпела ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы, могуць замест замежнай мовы здаваць экзамен па адной з дзяржаўных моў Беларусі.

Сёлета пры паступленні ў ВНУ захаваецца раздзельны конкурс для выпускнікоў гарадскіх і сельскіх школ. Падобны прынцып, які адказвае нормам сацыяльнай справядлівасці, па прыкладзе Беларусі зараз уводзіцца ў Расіі і ва Украіне, зазначыў міністр.

Вяртаюцца ранейшыя льготы для пераможцаў міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд, якія могуць паступаць у ВНУ без экзаменаў. Па рашэнні прыёмных камісій рэгіянальных ВНУ гэткія ж ільготы могуць устанаўлівацца і для пераможцаў абласных алімпіяд.

Закрануўшы праблему прыёму выпускнікоў-медалістаў, Васіль Стражаў зазначыў, што, у залежнасці ад конкурсу па той ці іншай спецыяльнасці, кіраўніцтва ВНУ будзе самастойна вызначаць увядзенне льгот для выпускнікоў школ, якія найбольш вызначыліся.

**Марат ГАРАВЫ.**

СПОРТ

## Хакеісты страцілі 300 тысяч долараў прэміяльных

**У сувязі з няўдалым выступленем на чэмпіянаце свету хакейная зборная Беларусі не атрымае 300 тысяч долараў ЗША прэміяльных ад Міжнароднай калійнай кампаніі.**

Пра гэта паведаміў БелаПАН віцэ-прэзідэнт Федэрацыі хакея Рэспублікі Беларусь (ФХРБ) Уладзімір Беражкоў. Хакеісты могуць разлічваць толькі на прэміяльныя па лініі Міністэрства спорту і турызму, якія выдзяляюцца за набраныя на чэмпіянаце свету ачкі. Праўда, для гэтага неабходна хадайніцтва федэрацыі перад Мінспорту, якое затым разгледзіць магчымасць выплаты прэміяльных. Як вядома, па выніках прайшоўшага ў Германіі 65-га чэмпіянату свету зборная Беларусі не змагла захаваць месца ў групе наймацнейшых.

22 мая адбудзецца пасяджэнне выканкама ФХРБ, на якім будзе разгледжана сітуацыя вакол нацыянальнай зборнай. На пасяджэнні віцэ-прэзідэнт федэрацыі мае намер ініцыіраваць перанос чарговай канферэнцыі ФХРБ са снежня на канец ліпеня — жнівень. Беражкоў пацвердзіў свой намер пайсці ў адстаўку нават нягледзячы на магчымыя просьбы застацца, паколькі лічыць сябе датычным да цяперашняй сітуацыі ў беларускім хакеі. Паводле яго слоў, пакінуць сваю пасаду хоча яшчэ адзін віцэ-прэзідэнт — Леў Кантаровіч. Разам з тым Беражкоў лічыць мэтазгодным далейшае знаходжанне на пасадзе прэзідэнта федэрацыі Юрыя Бародзіча, былога кіраўніка Службы бяспекі прэзідэнта, а зараз прадстаўніка беларускага КДБ у расійскай ФСБ.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# ТАВАРЫШЫ ПА НЯШЧАСЦІ

## Ці выратуе фермер краіну, калі яго самога трэба ратаваць?

Некалькі тыдняў таму Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый падводзіла вынікі конкурсу на званне лепшага прадпрымальніка мінулага года. Адбылася сустрэча ў Адміністрацыі прэзідэнта з гэтай нагоды. "Бацька", канешне, выступіў. Яму цяпер толькі і засталося, што выступаць. Свярбіць працытаваць адзін момант з яго прамовы. Вось: "Усякія развагі пра тое, што дзяржава супраць прадпрымальнікаў і не падтрымлівае іх, — гэта менавіта беспадстаўныя развагі. Такога не было і ніколі не будзе. Але парадак у нас жорсткі, працаваць прыходзіцца ў роўных умовах. А калі дзяржава стварае штучныя бар'еры, то гэта, зразумела, дрэнна".

Чытаць без смеху, канешне, немагчыма. Ну, ясна, гэта — не больш чым перадвыбарная прамова, і ставіцца да яе трэба адпаведна, іншымі словамі, з гумарам. Тут мяне, праўда, спыняе адна рэч. Фермер у нас — той жа прыватны прадпрымальнік, часцей дробны, чым сярэдні. Значыць, калі Лукашэнка разважае пра роўныя ўмовы, то гэта датычыць і фермераў? Ну што ж, давайце і мы паразважаем пра "роўныя ўмовы".

*Рамонт тэхнікі ў калгасе.*

Фота IREX/ProMedia.

### I.

У Добрушскім раёне, як мне казалі, 14 фермераў. Пяцёра з іх жывуць у вёсцы Крупец. Паколькі ў вашага карэспандэнта не было магчымасці пагаварыць з усімі, ён спыніцца на жыцці двух. Мікалай Талкачоў з'яўляецца фермерам з 1993 года, а Мікалай Лазарэнка — з 1991-га. Першы ў папярэднім жыцці быў вадзіцелем у мясцовым калгасе, другі — маёр у адстаўцы. Людзі як людзі. Фермеры як фермеры. Як гаворыцца, масавы варыянт. Не надта паспяховыя, але і не апошнія. Сярэднестатыстычныя. Хаця той факт, што іх гаспадаркі існуюць дагэтуль, ужо гаворыць шмат аб чым.

Праблемы ў гэтых дваіх пачаліся з таго самага моманту, калі яны ўвогуле першы раз папрасілі зямлі. Зямлю далі, але... У Талкачова адзін участак быў за 4 кіламетры ад дома, другі — ажно за 13. У канцы мая там мёртва вязлі магутныя "Кіраўцы". Талкачоў яшчэ унікальны тым, што яму далі каля 2—3 гектараў самага сапраўднага балота.

У Лазарэнкі зямля бліжэй. Нейкіх 3,5 кіламетра ад дома. Пехатою дайсці можна, а вось на тэхніцы — цяжкавата. Справа ў тым, што дарогу пастаянна разбівалі калгасныя трактары. У прынцыпе, з гэтым можна было б змірыцца, прыстасавацца. Тым больш, у тым месцы былі закінутыя кар'еры, дзе некалі здабывалі гліну. Усю гліну выкапалі, кар'еры засталіся, а ў Лазарэнкі з'явілася ідэя: стварыць на гэтым месцы сажалкі, разводзіць карпа. Калі ласка, прыходзь, плаці і лаві. Нармальная ідэя нармальнага гаспадара. Праўда, у ненармальнай краіне.

Мікалай Лазарэнка заказаў праектна-каштарысную дакументацыю. Зразумела, заплаціў за яе і пачаў сваю нармальную ідэю "прабіваць". Але тут раптам захваляваліся эколагі з абласнога цэнтра. Там, сказалі, запаведная, паляўнічая зона і гэтак далей. Адным словам, нармальная ідэя аказалася пахаванай на дне кар'ераў. Цікава, што ў Добрушы ўсе патрэбныя паперы падпісалі, Гомель жа паставіў надзейны шлагбаум: псуеш прыроду.

Даволі цяжка зразумець логіку абласных эколагаў: у рысе горада хімкамбінат атручвае ўсё што можна, але наконт гэтага "абаронцы прыроды" чамусьці маўчаць. Апошнюю спробу Лазарэнка зрабіў года паўтара таму — вынік быў той жа: нельга. Можа быць, справа ў тым, што хімкамбінат — прадпрыемства дзяржаўнае, а Лазарэнка — прыватная асоба? Што само па сабе ўжо з'яўляецца ў нашай блаславеннай краіне складам злачынства...

### II.

Сама вытворчасць сельгаспрадукцыі для фермераў набывае трагікамічнае адценне. Нават не ведаеш, чаго тут больш: слёз ці смеху.

Аднойчы Мікалай Талкачоў прыняў рашэнне заняцца ранняй бульбай. Справа выгадная ва ўсіх адносінах. Ранняя бульба штогод у два-тры разы даражэй за мінулагоднюю — з гэтым было ясна з самага пачатку. Не была ўлічана адна акалічнасць: менталітэт. У тым сэнсе, што за ноч у Мікалая выкопвалі па 3—4 соткі бульбы. Прыходзілася не спаць начамі, лавіць злодзеяў. Але што з імі рабіць? Везці ў міліцыю? А хто будзе вартаваць бульбу?

У Лазарэнкі атрымалася больш удала. Ён пасадзіў капусту. Пільнаваць яе прыйшлося тры месяцы. Паставілі палатку, пазменна дзяжурылі. Восенню прадалі машыну капусты на мясцовым дрэваапрацоўчым камбінаце — дырэктар там быў Лазарэнку знаёмы. Калі апісаць сітуацыю еўрапейскаму фермеру, ён проста не зразумее, у чым справа. Скажам, навошта ахоўваць ураджай, калі ёсць закон? Навошта трэба, каб быў знаёмы дырэктар, калі ёсць такая простая рэч, як кантракт на пастаўку, дзе ўсё распісана? Ну як яму можна растлумачыць, што закон у нас — тайга, што без асабістых сувязяў, "падмазкі" зрабіць у нас нічога нельга ў прынцыпе?

Большасць фермераў у раёне займаецца раслінаводствам, бо яно больш выгаднае. Ёсць, праўда, дзівакі, якія прысвяцілі сябе жывёлагадоўлі. Гэта больш небяспечная дзейнасць. Вось адзін трымаў ферму. Летась, як звычайна, нарыхтаваў кармы. Усё сена яму нехта спаліў. І фермер цяпер рашае праблему: мяняць арыентацыю гаспадаркі ці не? Бо ніякай гарантыі, што хто-небудзь зноў не спаліць сена, няма.

Гарантый для фермера няма ўвогуле. Раней давалі мінеральныя ўгнаенні, цяпер чамусьці не. Зямля такая рэч, што яе трэба ўгнойваць, пажадана — рэгулярна. Але як можна ўгноіць двума мяхамі салетры некалькі гектараў? Гэта немагчыма, затое магчыма зусім іншае: аб'явіць, што фермеры зямлю губяць. Вельмі зручна.

Раней была 50-працэнтная надбаўка за звышпланавую здачу дзяржаве збожжа. Надбаўку адмянілі, абавязковую здачу — не. Фермер здае гэта збожжа, але грошай не атрымлівае. Ён ідзе ў банк, там яму ветліва паведамляюць: "А вы на "картатэцы" — "Чаму?" — "На вашым рахунку — нуль рублёў нуль капеек". Так што мецць справу з дзяржавай можна. Але толькі пад пагрозай расстрэлу.

### III.

Талкачоў, Лазарэнка і іх таварышы па няшчасці маюць справу з мясцовым калгасам "Беларусь". І гэта сумная справа. У фермераў, канешне, ёсць таясяя тэхніка, зразумела — старажытная. Яе прыходзіцца ўвесь час рамантаваць. Куды падацца? На мехдвор калгаса. Але там — таварыш галоўны інжынер, які фермераў, мякка кажучы, не любіць. І, адпаведна, гоніць апошніх, часта — з нецэнзурнымі дабаўленнямі. Талкачоў і Лазарэнка гатовы заплаціць за карыстанне токарным ці фрэзерным станком. Не і не! Грошай інжынеру не трэба. Верагодна, лічыцца, што тэтыя грошы брудныя? А дзяржаўныя, якія адабралі ў небагатага нашага насельніцтва і кінулі ў бездань калектыўных і савецкіх гаспадарак, — чыстыя?

За 7 гектараў ворыва калгас здзірае з фермера 57 тысяч рублёў. Бываюць выпадкі больш крутыя. За тыя ж 7 гектараў з Лазарэнкі ўзялі 80 тысяч, а ў фермера са Жгуні за 15 гектараў — 140 тысяч. У раёне ёсць такая вытворчая адзінка пад назвай мехатрад. Лічыцца, ён арганізаваны для дапамогі гаспадаркам, у тым ліку і фермерам. Чаму ж, можна паспрабаваць, вырашылі крупецкія фермеры. Лазарэнку трэба было тэрмінова ўзараць 7 сваіх гектараў. Ён паехаў у Добруш. З начальнікам мехатрада адбылася павучальная размова.

— Не, — адказаў начальнік, — спачатку мы робім работу для калгасаў.

— А што, шмат заказаў?

— Ну-у-у, бываюць...

— Добра. А колькі вы ўзялі б за 7 гектараў?

— 280 тысяч.

Фермер толькі крэкнуў. І паехаў дадому, дзе падгаварыў двух мясцовых механізатараў. Яны ўзаралі поле роўна за 7 тысяч, ну і яшчэ за 2 бутэлькі гарэлкі. Без гэтага нельга. Можа быць, гэта і ёсць "чырвоная цана"?

Самым цікавым, аднак, мне падаўся вось які момант. У фермераў у агульную плошчу фермерскай гаспадаркі ўключаны і прысядзібныя ўчасткі. Што гэта значыць? Тое, што нічога асабістага ў іх няма. Іншымі словамі, калі Лазарэнку трэба прадаць на рынку кабанчыка, ён на гэта права не мае. У сельсавеце кажуць: фермерам даведку не даем. А жонцы? Не. Два дні патрачаны на даведку. Аб чым? Шчыра кажучы, я так і не зразумеў.

Дый многага іншага не разумею. Напрыклад, выказванні тыпу: фермер без калгаса не пражыве! Ды сто год ён не бачыў вашага калгаса, калі б яму далі магчымасць самому пабудаваць сваю гаспадарку ад пачатку да канца. Каб потым не кланяцца. Але сістэма якраз так і пабудавана, каб ёй усе, паўсюдна і заўсёды кланяліся. Фермер не жадае? Прымусім! А без пакланення такая сістэма проста губляе ўсякі сэнс. Яна без пакланення знікне на другі ж дзень.

Толькі для гэтага патрэбны, сама меней, дзве ўмовы: каб вярхі не маглі, а нізы не хацелі. Пакуль што такога не назіраецца. Мне часта даводзіцца размаўляць з сельскімі людзьмі: з начальнікамі вялікімі, сярэднімі, самымі маленькімі, проста з калгаснікамі. Усе разумеюць: калгаснай сістэме, як любіць гаварыць "бацька", капец. Што рабіць? Разводзяць рукі, адводзяць вочы. Застаецца нагадаць Ігара Губермана:

*Нельзя поднять людей с колен,*
*Покуда плеть нужна холопу;*
*нам ветер свежих перемен*
*всегда вдували через жопу.*

**Андрэй СЯРЖАН.**

КОЛОНКА ЮРИСТА

*Олег ВОЛЧЕК, автор рубрики, ждет ваших вопросов*

## Правильно ли поступает ЖЭС?

*Мой сын является аспирантом и проживает в общежитии, но ЖЭС продолжает взимать плату за коммунальные услуги за него по прежнему месту проживания.*

**Т.И.ПУРЕНОК.**
**г.Гомель.**

В соответствии с Постановлением СМ РБ от 25.08.1999 г. № 1332 "Об упорядочении расчетов населения за пользование жилыми помещениями и коммунальными услугами", по установленным ставкам (тарифам) производится плата за техническое обслуживание: в пределах 20 кв.метров общей площади на каждого проживающего (прописанного) в жилом помещении члена семьи нанимателя, собственника, члена организации граждан-застройщиков, в том числе временно отсутствующего по основаниям, предусмотренным в подпункте 1.7 настоящего пункта, и 10 кв.метров общей площади на всю семью, а также полученной в соответствии с законодательством дополнительной площади жилых помещений в размере до 20 кв.метров.

Тк как Ваш сын учится в аспирантуре, то при предоставлении документов, подтверждающих этот факт, производится перерасчет. Это закреплено в Положении "О порядке перерасчетов платы за коммунальные услуги и приостановления (возобновления) предоставления коммунальных услуг" от 21.02.1996 г. № 22 — для перерасчета платы за коммунальные услуги в случае отсутствия свыше десяти суток подряд гражданин подает заявление в жилищно-эксплуатационную организацию по месту постоянной прописки. Перерасчет производится на основании документа, подтверждающего временное отсутствие гражданина. Жилищно-эксплуатационные организации производят перерасчет платы за коммунальные услуги в случае временного отсутствия граждан на основании справок, подтверждающих их временное отсутствие, а также именных проездных билетов.

Данное положение является руководством для жилищно-эксплуатационных организаций, жилищно-строительных кооперативов, нанимателей (собственников) жилых помещений, членов ЖСК, ресурсоэнергоснабжающих организаций.

## Можно ли выписать сына

*Как я могу выписать сына, если он с нами не живет и более 6 лет мы его не видели, а за коммунальные услуги платим за всех.*

**Н.КОЗЫРЕВА.**
**Могилевская обл.**

К сожалению, выписать вы его не сможете, т.к., согласно Методическим рекомендациям "О порядке прописки граждан Республики Беларусь", выписка граждан осуществляется по личному заявлению каждого выписываемого. Возможно, он выехал за пределы РБ, в этом случае выписка граждан РБ, которые временно выехали за границу и остались там на постоянное жительство, осуществляется только по уведомлению ОПВС ГУВД Мингорисполкома, УВД облисполкомов на основании материалов, поступивших из Консульского управления МИД РБ.

## Размер минимального отпуска

*Имеет ли частная компания включать в контракт такой пункт, как годовой оплачиваемый отпуск не более 15 дней?*

**О.Е.МЕЛЬНИКОВА.**
**Брестская обл.**

В ст. 155 Трудового кодекса Республики Беларусь закреплен минимум основного минимального отпуска. Этот минимум не может быть менее 21 календарного дня. Минимум является нормативом, обязательным для всех нанимателей. Он гарантируется каждому работнику, который трудится в обычных условиях. В порядке и на условиях, предусмотренных коллективным договором, соглашением или трудовым договором, наниматель вправе за счет собственных средств предоставить работникам основной минимальный отпуск продолжительностью более 21 календарного дня. Каких-либо ограничений продолжительности такого отпуска законодательство не предусматривает.

Однако, согласно ст. 174 Трудового кодекса Республики Беларусь, по договоренности между работником и нанимателем трудовой отпуск может быть разделен на части. При этом одна часть должна быть не менее 14 календарных дней. Неиспользованная в связи с этим часть отпуска по договоренности между нанимателем и работником предоставляется в течение текущего рабочего года или по желанию работника присоединяется к отпуску за следующий год либо компенсируется в денежной форме, если иное не предусмотрено коллективным договором, соглашением или трудовым договором.

РАДЫЁ "РАЦЫЯ"

# Ласкава просім ці ўваход забаронены?

Каб выкараскацца з эканамічнага крызысу ды мадэрнізаваць вытворчасць, Беларусі патрэбна не менш як 50 мільярдаў долараў. Менавіта гэтак у сярэдзіне 90-х ацэньвала Міністэрства эканомікі патрэбу краіны ў інвестыцыях. Але, нягледзячы на ўсе намаганні ўраду, грошы ў Беларусь не ідуць. Патэнцыяльных інвестараў — як унутраных, гэтак і знешніх — палохае нестабільнае заканадаўства, а таксама палітычная сітуацыя ў дзяржаве.

Беларусь — гэта краіна, якая патэнцыяльна можа прывабіць значную колькасць замежных інвестараў. Пра яе выгаднае геапалітычнае становішча казалі шмат. Апроч таго, эксперты адзначаюць кампактнасць тэрыторыі, невялікую знешнюю запазычанасць (80—90 долараў на кожнага жыхара), вельмі высокую дысцыплінаванасць працаўнікоў-беларусаў ды нешырокую карумпіраванасць чыноўнікаў у параўнанні, да прыкладу, з Расіяй.

Але ўсе гэтыя станоўчыя адметнасці нашай краіны псуюць некалькі зусім непрыемных для любога інвестара акалічнасцяў: нестабільнае заканадаўства, занадта актыўнае ўмяшальніцтва дзяржавы ў эканоміку, заблытаная сістэма падаткаабкладання. Якраз гэта і прывяло да ўсё большага з кожным годам зніжэння аб'ёму інвестыцый у беларускую эканоміку.

Недахоп — як знешніх, гэтак і ўнутраных — інвестыцый можа абярнуцца для Беларусі шматлікімі праблемамі. З некаторых ацэнак незалежных экспертаў, напрыклад, Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, зношванне асноўных фондаў прадпрыемстваў нашай краіны складае 80 працэнтаў, гэта значыць, 80 працэнтаў абсталявання трэба тэрмінова замяніць, бо працаваць на ім хуткім часам стане зусім немагчыма.

На тое, каб правесці мадэрнізацыю вытворчасці, трэба патраціць не менш за 50 мільярдаў долараў. Такую лічбу падало Міністэрства эканомікі ў сярэдзіне 90-х. Нават калі меркаваць, што яна заніжаная, усё адно можна ўпэўнена сказаць: і паловы такіх грошай у дзяржаўнай казне няма. Значыць, трэба пускаць у краіну інвестараў, якія могуць даць сродкі на пераабсталяванне прадпрыемстваў. Але для гэтага прыйдзецца праводзіць прыватызацыю — прадаваць заводы-банкруты тым, хто хоча зладзіць на іх парадак. Вядома, што дзяржава не спяшаецца развітацца з такімі заводамі. Прадаюцца пераважна сярэднія ці дробныя прадпрыемствы, але на "драконаўскіх" умовах альбо за шалёныя грошы. Гаворыць першы намеснік міністра прадпрымальніцтва ды інвестыцый Аляксандр Швец.

**А.Ш.:** — Прыватызацыя, на маю думку, часта падмяняецца такім паняццем: за колькі мы прадамо прадпрыемства? Самае галоўнае прызначэнне прыватызацыі — знайсці больш эфектыўнага ўласніка, які здолее больш хуткімі крокамі вывесці прадпрыемства з таго становішча, у якім яно часта знаходзіцца. А потым ужо дадаюцца ўсе астатнія механізмы: за колькі прадаць, на якіх умовах і г.д.

Апошнім часам дзяржаўныя чыноўнікі сталі ўсё больш гаварыць пра неабходнасць стварэння ў Беларусі гэтак званага "спрыяльнага інвестыцыйнага клімату". Да гэтага нават робяцца канкрэтныя захады. Гэтак, распрацоўваюцца падатковы ды інвестыцыйны кодэксы, у хуткім часе будзе пераглядацца Закон аб прыватызацыі. Застаецца толькі спадзявацца, што гэта ёсць рэальныя крокі на шляху пабудовы рынкавай эканомікі, а не чарговыя перадвыбарчыя дырэктывы, якія кіраўнік дзяржавы спускае сваім міністрам.

**Юлія ШАРОВА.**

# Семь лет лишения свободы за... ведро апельсинов

А.Домашевич осужден к семи годам лишения свободы. Отбывает наказание в ИТК строгого режима г.Волковыска (УЖ 15/11, 4-й отряд).

Александр Петрович обратился в "Народную волю" с просьбой выслать ему Уголовно-исполнительный кодекс и правила внутреннего содержания в ИТК строгого режима. Он пишет:

"... телевизор мы смотрим по очереди, так как отсутствует аудитория для просмотра, а в коридоре может разместиться только три скамейки, на которых умещаются всего лишь 12 человек...";

"...в жилом помещении на 50 кв.м — 30 человек (1,6 кв.м на человека, как на кладбище. — **Авт.**). На 130 человек... — 3 унитаза и 5 кранов для умывания";

"рабочую одежду приходится вешать на спинки кроватей в жилых помещениях и дышать пылью от нее. Стирать можно только раз в неделю";

"во время стирки и сушки осужденный находится без нижнего белья, как, впрочем, и без всего остального, ведь выдают всего один комплект...".

Что же такое совершил этот 32-летний мужчина, коль его лишили не только свободы, но и человеческих условий бытия?

**Из приговора суда Фрунзенского района г.Минска от 18 января 2001 года:**

"... к ней (продавщице. — **Авт.**) подошел Домашевич и взял лимон, а затем стал требовать что-нибудь поесть, предлагал купить нож"...;

"...свидетели (работники милиции. — **Авт.**), подойдя к указанному месту, увидели сидящего Домашевича, рядом с которым находился нож...";

"...оценивая собранные по делу доказательства, содеянное подсудимым суд квалифицирует по статье 213 ч.3 (ношение или сбыт холодного оружия. — **Авт.**). Его же действия суд квалифицирует по статье 89 ч.2 (разбой. — **Авт.**)...".

Суд по указанным статьям приговорил Александра Домашевича к двум и семи годам лишения свободы соответственно. Окончательный срок — семь лет.

Приговор оглашен 18 января 2001 года. Однако на тот момент действовал уже новый УК, в соответствии с которым за ношение и сбыт холодного оружия на первый раз предусмотрено лишь административное, а не уголовное наказание, и, следовательно, уголовное преследование по статье 213 предыдущего Уголовного кодекса должно быть прекращено.

Кроме того, из приговора следует, что разбой А.Домашевича заключался в завладении 15 кг апельсинов и присвоением наличных денег на сумму, эквивалентную на тот момент стоимости шести килограммов апельсинов.

В общей сложности осужденный покушался на ведро цитрусовых. Именно покушался, потому как взял, что так же следует из приговора суда, всего лишь одну штуку. И не апельсин, а лимон.

Осужденный не признал свою вину ни в покушении на цитрусовые, ни в попытке продать нож. Но даже если верить белорусскому суду, а не белорусскому зеку, то все равно возникает вопрос: адекватно ли наказание содеянному?

Семь лет лишения свободы за покушение на ведро апельсинов?! Не потому ли белорусские следственные изоляторы, тюрьмы, колонии и прочие места лишения свободы набиты заключенными как бочки селедкой (по информации СМИ, около 100.000 человек. — **Авт.**)?!

Может быть, деньги белорусских налогоплательщиков лучше использовать на увеличение детских пособий, чем тратить бюджетные средства на содержание за колючей проволокой десятков тысяч "преступников", покусившихся на курицу, мешок комбикорма, пакет макарон и пусть даже ведро апельсинов?

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник, БХК.**

# Как я искала работу

В районном Центре занятости было душно и удивительно тихо. В коридоре на стульях сидели в основном молодые работоискатели. Выражение лиц было у всех разное: кто-то смотрел в одну точку, терпеливо ожидая своей очереди, кто-то внимательно изучал содержание стенда о противопожарной безопасности.

Наконец-то меня вызвали. Дама в очках, сидевшая за компьютером в пол-оборота ко мне, должна была меня зарегистрировать, т.е. занести мои данные в компьютер.

Я (робко): "Здравствуйте".

Она (живо): "Та-акс, что тут у нас?". И, глянув на мое совсем, видно, юное лицо, спросила: "На курсы?".

Я протянула ей документы. Тем, кто там еще не был, поясняю: паспорт, медицинская справка и корочка об окончании курсов. Дама взяла корочку и стала внимательно ее изучать. Затем сказала: "Солидно. У нас таких не выдают. Ты и правда секретарь-референт международного класса со знанием компьютера и делового английского?". Я кивнула. После этого она почему-то громко вздохнула. Почему, я поняла в другом кабинете, где инспектор поведала мне, что из-за отсутствия "опыта" и двух месяцев до совершеннолетия я почти ни на что не могу рассчитывать, кроме (по ее словам) "каторжной работы" за пишущей машинкой с восьми до восьми, с двумя десятками таких же, как я, в одном помещении максимум за 16 тысяч в месяц. Солидные фирмы никогда не присылают им запросов, предпочитая самостоятельно набирать штат. Фирмам поменьше нужно "еще что-нибудь, помимо выполнения прямых обязанностей", а мне нет восемнадцати, и никто не захочет со мной связываться.

Я решила попробовать самостоятельно помочь себе найти работу и лишить государство еще одного претендента на пособие по безработице. Среди объявлений в газете я выбрала те, где требовались секретари-референты или делопроизводители. Странно, но вопросы задавались совсем в другом порядке, чем я ожидала: рост, опыт работы, даже выяснялась длина ног и цвет волос. По достижению графы "возраст" голос работодателя почему-то скучнел, и его уже не интересовало, сколько я знаю языков и скорость набора текста 200 знаков в минуту.

Попались два объявления, где требовались гувернантка в молодую состоятельную семью с ребенком и так называемая бэбиситинг. Позвонив по первому, наткнулась на вопросы о рекомендациях и педагогическом опыте. Я ответила, что это не заменит простой любви к детям, и была немедленно не принята. Позвонив по второму, поняла, что при всех требованиях и такой оплате выгоднее сидеть с собственным братом.

Меня заинтриговали объявления, предлагающие высокооплачиваемую работу на дому, где возраст и опыт работы не имели значения. Требовалась только коммуникабельность. Естественно, как все уже догадались, предлагалось заниматься сетевым маркетингом, т.е. по-простому — распространением. Распространением чего? Да всего — от косметики до книг, от посуды до колготок. Я отчаялась. Не так давно приехав в этот город, я просто не успела приобрести такого количества знакомых, чтобы продать хоть что-нибудь. Не стоять же мне на улице с этими товарами.

Я решила позвонить еще по одному объявлению. Голос, наконец-то заинтересованный, жизнерадостный, спросил у меня: "Любите ли вы Интернет? Согласны ли вы на работу, связанную с Интернетом?". Да, конечно, я его люблю, я его просто обожаю и готова часами в нем сидеть. К тому же я уже наслышана о том, что в Интернете идут прямо-таки денежные дожди и, если грамотно воспользоваться ситуацией, можно кое-что подзаработать.

Мне назначили встречу. То, что здесь предлагали, имело настолько отдаленное отношение к Интернету, что меня не прельстили даже возрастающие проценты от продаж товара и получение через полгода новенького феноменa (т.е. портативного компьютера), которых "в Беларуси всего две-три штуки и то у жен дипломатов неприсоединившихся стран". Товаром, который мне надлежало распространять, были таблетки от усталости и для повышения иммунитета.

"Послушайте, это случайно не сетевой маркетинг?", — тихим, печальным голосом спросила я спустя полчаса.

Ответом мне было удивленное: "А что такое сетевой маркетинг?"*

**Татьяна КОРНЮШКО,**
**студентка-журналистка.**

** Сетевой маркетинг — распространение товаров. Чем больше привлекаешь новых продавцов, тем больше получаешь процент от продаж.*

РЭГІЁН

## Вайна бартэру

Напрыканцы мінулага тыдня дырэктар аднаго з самых буйных вытворцаў Беларусі Крычаўскага ААТ "Крычаўцэменташыфер" Мікалай Дудыка ў шэрагу іншых кіраўнікоў прадпрыемстваў вобласці рабіў вельмі непрыемную для сябе справаздачу на пасяджэнні Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта. Асноўная тэма пасяджэння — "Аб мерах па скарачэнні тавараабменных аперацый".

Справа ў тым, што яшчэ ў студзені гэтага года аблвыканкам прыняў рашэнне, якое абавязала ўсе прадпрыемствы вобласці скараціць бартэрныя аперацыі як мінімум да 30% агульнага аб'ёму тавараабароту. Нягледзячы на гэта, бартэр і па сённяшні дзень складае больш за 50% тавараабароту, а зніжэння ўдалося дасягнуць толькі на 6,2%. І магілёўскае "Хімвалакно", і бабруйская "Белшына", і крычаўскі "Крычаўцэменташыфер", і іншыя вытворцы проста праігнаравалі рашэнне абласных улад.

Трэба адзначыць, што на фоне іншых кіраўнікоў сп.Дудыка выглядаў даволі прыстойна. Так, ён зазначыў, што аб'яднанне стварыла ўласную дылерскую сетку ў Польшчы і Прыбалтыцы, створаны перадумовы для продажу прадукцыі на Украіну. "Крычаўцэменташыфер" першым сярод цэментных заводаў краіны атрымаў міжнародны сертыфікат якасці на сваю прадукцыю. Аднак разам з тым сёння аб'яднанне не ў стане паменшыць аб'ёмы бартэру, бо ў яго проста няма пэўных сродкаў для пакупкі сыравіны ў Расіі.

## Не плацяць

Прадпрыемствы і арганізацыі Крычаўскага раёна на пачатак месяца мелі велізарныя запазычанасці па выплатах за скарыстаную электраэнергію. На жаль, сума доўгу пастаянна расце.

Каля чатырох мільярдаў беларускіх рублёў — менавіта такая агульная сума запазычанасцяў за электрычнасць. Амаль 40% ад гэтага прыходзіцца на долю калгасаў і саўгасаў. Такім чынам, спадзявацца на вяртанне "сельскай" часткі доўгу не прыходзіцца ні пры якіх абставінах, бо літаральна ўсе калгасы Крычаўшчыны проста не ў стане плаціць па рахунках.

## Падзенне

На нядаўнім пасяджэнні Мсціслаўскага выканаўчага камітэта былі агучаны лічбы, што даюць магчымасць назваць эканамічную сітуацыю ў раёне катастрафічнай.

За першы квартал 2001 года аб'ём прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам 2000 года знізіўся на 17,3%, а вытворчасць спажывецкіх тавараў на 5,6%.

Але гэтыя паказчыкі цямнеюць і не падаюцца празмерна абвальнымі, калі гаварыць пра сельскую гаспадарку раёна. Аб'ём выпуску калгасамі і саўгасамі сельскагаспадарчай прадукцыі ў студзені—сакавіку гэтага года склаў толькі 75,7% (!) ад узроўню таго, што было выраблена за першых тры месяцы мінулага года.

**Андрэй КУЗЬМІН,**
**кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**
г. Крычаў.

